БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

26 мая 1994 г.
Чацвер
№ 56 (13773)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года


Малюе Віктар ДУБОВІК




# БЫВАЙ, ШКОЛА!

*Прагучаў апошні званок. Рукі трымаюць прывялыя на сонцы кветкі. Кожны крок аддаецца рэхам у пустых школьных калідорах. Бывай, школа!*

*Памятаеце, як вы чакалі гэтага дня, апанаванага квеценню вішань, яблынь, чаромхі, бэзу. Чаму ж зараз вашыя вочы набрынялі вільгаццю, чаму да сэрца падступілі боль і трывога, чаму цяжка глядзець на першую настаўніцу, у якой дрыжыць–зрываецца голас. "Вольнаму–воля..." Далонь міжволі слізгае па халоднай паверхні парты. Цяпер за яе сядуць іншыя. Хацелася б ведаць — хто, папросту паглядзець яму ў вочы: мажліва тады стане лягчэй. Што мільгае там, наперадзе, — не разгледзець. Бывай, школка! Дай пастаяць на тваім парозе, дай запомніць гэтае шчымлівае імгненне, гэтыя позіркі і гэтыя слёзы.*

Фота Сяргея БРУШКО.



## Кур'ер "ЧЗ"

### Расія выдзяляе крэдыты

*Як паведамлялася ўжо, на мінулым тыдні адбылася сустрэча Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча з кіраўніком расійскага ўрада Віктарам Чарнамырдзіным.*

Абмяркоўваліся агульныя пытанні эканамічнага супрацоўніцтва, адбылася грунтоўная гутарка аб шляхах выканання падпісанага ў красавіку месяцы паміж Расіяй і Беларуссю пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэм. В.С.Чарнамырдзін, у прыватнасці, паведаміў В.Ф.Кебічу аб тым, што ўрад Расійскай Федэрацыі прыняў рашэнне выдзеліць Беларусі міжурадавы крэдыт на першае паўгоддзе 1994 года ў памеры 150 мільярдаў расійскіх рублёў.

### Дзеці дапамагаюць дзецям

*Шчодрасць і дабрыню сваіх сэрцаў, дэфіцытныя лякарствы і прыгожыя цацкі пяты год перадаюць хворым дзецям, якія пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, студэнты і выкладчыкі школы з прыгарада Нью–Йорка.*

Медыкаменты, абсталяванне і дзіцячае харчаванне на суму каля 6 мільёнаў даляраў атрымалі іх беларускія равеснікі за гэты час. Так было і цяпер. Юных амерыканцаў і іх настаўнікаў, якія прыбылі ў Мінск, 24 мая прыняў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслаў Грыб.

Цяперашні візіт амерыканскіх студэнтаў і іх выкладчыкаў, які прадоўжыцца 10 дзён, крыху незвычайны. Госці не толькі прывезлі дабрачынны груз з лякарствамі і цацкамі на суму 400 тысяч даляраў, але і прымуць удзел у мінскім Міжнародным фестывалі "Голас дзяцінства".

### Выбар за вамі, панове

*Савет Міністраў рэспублікі зацвердзіў спіс з 61 прадпрыемства, акцыі якіх з 1 ліпеня пачнуць рэалізоўвацца грамадзянам рэспублікі за прыватызацыйныя чэкі.*

Пра гэта паведамілі ў аддзеле грамадскіх сувязей і маніторынгу Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі. Работнікі прадпрыемстваў, якія пажадалі ўкласці чэкі ва ўласную фірму, змогуць з мэтай набыць акцыі па месцы работы. Іншыя ўладальнікі прыватызацыйных сертыфікатаў змогуць набыць акцыі выбраных прадпрыемстваў праз аддзяленні ашчаднага банка. Размеркаванне каштоўных папер па аддзяленнях банка плануецца праводзіць прапарцыянальна колькасці насельніцтва рэгіёна. Больш падрабязную інфармацыю аб прадпрыемствах, што падлягаюць прыватызацыі, можна атрымаць з праспектаў эмісіі, якія будуць знаходзіцца ў цэнтральных аддзяленнях ашчадбанка.

### Цэнтрам урачыстасцей будзе Мінск

*Пад старшынствам першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета В.Кузняцова адбылося чарговае пасяджэнне рэспубліканскай камісіі па падрыхтоўцы да святкавання 50–годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка–фашысцкіх захопнікаў.*

Адзначалася, што юбілейныя мерапрыемствы пройдуць 2—3 ліпеня ва ўсіх гарадах Беларусі. Своеасаблівым цэнтрам урачыстасцей стане Мінск. Сюды прыедуць дэлегацыі з многіх краін блізкага і далёкага замежжа, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікі вызвалення Беларусі. Будуць ускладзены вянкі і кветкі да манументаў на плошчы Перамогі, Кургане Славы, у мемарыяльным комплексе "Хатынь", і іншых памятных месцах.

БЕЛІНФАРМ.

### 50–годдзю прысвячаецца

*Навукова–гістарычная канферэнцыя, прысвечаная 50–годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка–фашысцкіх захопнікаў, пройдзе з 27 мая ў тэатральнай зале мінскага Дома афіцэраў.*

Арганізавана гэта мерапрыемства Міністэрствам абароны, ваенна-навуковым таварыствам і рэспубліканскім саветам ветэранаў.

Мікола БАГАДЗЯЖ.

### Сумнае "лідэрства"

*Ужо самыя першыя праверкі, праведзеныя сёлета Крычаўскай занальнай інспекцыяй працы, якая кантралюе больш як 250 прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў у чатырох раёнах, паказалі, што самы высокі траўматызм назіраецца ў гаспадарках і на прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу.*

У калгасах часцяком няма нават адказных за ахову працы і тэхніку бяспекі асоб. Асобныя ж кіраўнікі проста ігнаруюць патрабаванні заканадаўства, што іншы раз прыводзіць да калецтваў і нават да гібелі людзей.

Аляксандр БАЛДОЎСКІ.

### Даруй, зямля!

*Як паведаміла Віцебскае абласное ўпраўленне статыстыкі, у мінулым годзе тут зарэгістравана дванаццаць выпадкаў залпавых і аварыйных выкідаў шкодных рэчываў у вадаёмы вобласці. Сума страт склала семнаццаць мільёнаў рублёў.*

З 265 абследаваных аб'ектаў на 59 устаноўлена перавышэнне гранічна дапушчальных выкідаў шкодных рэчываў у атмасфернае паветра. У Бешанковіцкім, Гарадоцкім і Докшыцкім раёнах выкіды шкодных рэчываў павысіліся ў параўнанні з папярэднім годам. Дагаспадарыліся!

### І ў Оршы яўрэй не горшы

*Сход прадстаўнікоў яўрэйскай нацыянальнасці адбыўся ў Оршы. Тут прысутнічалі людзі розных сацыяльных слаёў: ветэраны вайны і працы, былыя ваеннаслужачыя, рабочыя, інтэлігенцыя.*

Яўрэі разгледзелі пытанне аб стварэнні сваёй абшчыны, якая не павінна быць палітычнай, а выконваць функцыі міласэрнасці, прапаганды гісторыі і культуры нацыі.

Вось бы і беларусам на Аршаншчыне гэткае нацыянальнае свядомасці!

Уладзімір МІХНО.

### Самы лепшы падарунак

*Своеасабліва павіншавалі са святам Перамогі Пятра Прохаравіча Сянкевіча вучні маладзечанскай сярэдняй школы № 9.*

Яны прыйшлі ў гэты святочны дзень да ветэрана вайны і працы, ускапалі яму агарод і пасадзілі бульбу.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Белгідрамет абвяргае...

*Учора па рэспубліцы папаўзлі чуткі, што з–за выбуху на Ігналінскай АЭС адбыліся значныя выкіды радыеактыўных рэчываў, што пагражаюць здароўю і грамадзян Беларусі. Наш карэспандэнт звязаўся з Белгідраметам.*

Вось што нам паведамілі спецыялісты з тамтэйшага аддзела інфармавання аб узроўні радыяцыі:

— Трывога яўна беспадстаўная. Ніякіх здарэнняў, дастойных такой увагі, не адбылося. Мы разумеем людзей, якія памятаюць сполахі ад Чарнобыля і інфармацыйны вакуўм вакол яго, але цяпер, паверце, ніякіх падстаў для неспакою няма.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### Курсы валют на 25 мая:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 20600 | 21300 | 12500 | 12940 |
| "Пошук" | 19950 | 20600 | 12000 | 12400 |
| "Прыор" | 21000 | 21500 | 12600 | 13000 |

ПРЭЗІДЭНЦКІ МАРАФОН: ПАЗІЦЫІ, ДУМКІ, МЕРКАВАННІ

# "Хуткае фота" дэмакратыі ў выбарчым інтэр'еры

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

Толькі сёння завяршаецца афіцыйны тэрмін, адведзены для праверкі падпісных лістоў. Будуць абвешчаны вынікі гэтага этапу прэзідэнцкай кампаніі. З заўтрашняга дня распачынаецца рэгістрацыя кандыдатаў на пасаду першага беларускага прэзідэнта. Аднак і папярэднія звесткі, якія не былі сакрэтнымі ўжо на другі дзень пасля апошніх намаганняў ініцыятыўных груп, далі падставу для пэўных меркаванняў. Расійскія дый беларускія сродкі масавай інфармацыі распавялі пра спіс 7-мі. Па ўсёй верагоднасці, якіх-небудзь кардынальных змен у ім не адбудзецца. Прозвішчы і фігуры — знаёмыя, у беларускім палітычным спектры займаюць даволі канкрэтныя месцы. Хаця ход перадвыбарчай барацьбы (а галоўныя падзеі, хутчэй за ўсё, распачнуцца пасля "легалізацыі" праграм і атрымання кожным з прэтэндэнтаў зорнага часу на тэлебачанні працяглласцю дзве з паловай гадзіны) красамоўна сведчыць аб магчымых "ракіроўках" для заняцця найбольш зручных пазіцый, нельга дапусціць, што падобныя перамяшчэнні дадуць магчымасць палітыкам цалкам змяніць свой імідж. Простым вокам бачна: дэмакратычная плынь, як ні сумна, не здолела стаць магутным патокам. Акрамя таго, што шэраг прадстаўнікоў рэфармісцкага (розных адценняў) лагера не трапіў у галоўны тур барацьбы, дзеячы дэмакратычнай арыентацыі, якія рушаць далей па цяпер ужо гасцінцу да прэзідэнцтва, наўрад ці могуць быць задаволены рэйтынгам папулярнасці. Каб не сурочыць, не станем называць асобныя прозвішчы, у гэтым няма вялікай патрэбы. Больш цікавымі і важнымі ўяўляюцца прычыны такога раскладу.

Дзіўныя, на першы погляд, рэчы назіралі мы апошнім часам. Але відавочныя. За гады, прайшоўшыя пасля агульнасаюзнай перабудовы і ўтварэння новай садружнасці на руінах звышдзяржавы, дэмакратычныя плыні ў былых рэспубліках-сёстрах амаль не змяніліся, засталіся (і па лозунгах, і па падбору лідэраў) такімі, як і былі. Беларуская дэмакратыя тут не выключэнне.

Трэба прызнаць, што дэмакратычныя ідэі патроху гінуць, страчваючы папулярнасць і прыхільнікаў, а вобраз самой дэмакратыі ў самым шырокім сэнсе цьмянее і паспеў ужо пакрыцца бэзава-шэрым налётам "у лёгкай памяці народа". Прыйшоўшы ў калідоры ўлады, нешматлікія і ўсё ж дэмакраты (ці тыя, хто імі назваўся) наўрад ці здолелі ашчаслівіць народ, які чакаў хуткіх перамен. Наадварот, грамадства апынулася ў паўжабрацкім стане. За выключэннем "верхніх дзесяці тысяч". Як цяпер спрабаваць растлумачыць пенсіянерам ля ашчадных кас, з ночы займаючым чаргу за мізэрным "пансіёнам", што спрацавала інерцыя савецка-камуністычнага заняпаду? Цяжкая справа, тым больш, калі ўзяць у разлік наступнае: рэзкае пагаршэнне жыццёвага ўзроўню адбылося менавіта пры дэмакратычным кіраўніцтве, прынамсі пры яго непасрэдным удзеле. Многіх, многіх цяпер не пераканае ніякая агітацыя, пагрозлівы бляск уяўляемай галечы сляпіць вочы, не дазваляе адрозніць паміж сабой рэальныя і ўяўныя абяцанкі. Сёння і "чырвоная ніць збавення" камуністаў, якую тыя без сумненняў уплятуць у перадвыбарчую праграму, падасца многім разгубленым людзям ніткай Арыядны. Хто ж не жадае хутчэй выбрацца са змрочнага лабірынта эканамічных "рэформ"?

Другое пытанне-парадокс: што за дзівосныя дэмакраты з'явіліся на палітычным небасхіле ў прыцемкавы час эпахальнага павароту айчыннай гісторыі? Адказ адзін — найбольш разумныя і інтэлектуальныя прадстаўнікі партыйных шэрагаў. Акрамя ўчарашніх прававерных камуністаў, у элітарна-кіруючым асяроддзі няма нікога. І не было, таму што сапраўдныя "змагары за ідэю" ва ўладу ніколі не хадзілі. Адбылася падмена, яе не заўважылі. Так ці інакш агульнанароднае ўяўленне аб дэмакратыі ў агляднай будучыні змяніць немагчыма. І тут можна канстатаваць таксама простую рэч.

Падтрымка дэмакратычных лідэраў на сярэдзіне выбарчага марафона атрымалася, па ўсёй верагоднасці, не такой унушальнай, як чакалася. Калі б цудоўныя ідэі не страцілі прывабнай абгорткі і ружовых фарбаў, такога б не адбылося. Магчыма, тут і ляжаць крыніцы пэўных рознагалоссяў сярод лідэраў дэмакратычнай арыентацыі. БНФ, БСДГ, Партыя народнай згоды вызначаюць прыярытэты на фоне фігур у чырвонай абламоўцы, якія з кожным днём вырастаюць у памерах, не робячы рэзкіх рухаў.

Калі на імгненне азірнуцца назад, можна зазначыць, што прывабнасць дэмакратычныя ідэі пачалі страчваць яшчэ ў канцы васьмідзесятых. Спачатку ў Маскве, потым і ўсюды. Пакуль жыццё сярэднестатыстычнага выбаршчыка няўхільна пагаршалася, уладатрымальнікі (і сярод іх — дэмакраты) былі заклапочаны, бадай, адным і тым — як мага далей не выпусціць з уласных рук дзяржаўны скіпетр. Гэтаму і толькі гэтаму падпарадкоўваліся іх бясконцыя ваганні і манеўры. Шлях у нікуды "залатога хлопчыка" сістэмы і пестуна заходніх дэмакратый Міхаіла Сяргеевіча паўтарылі літаральна ўсе рэспубліканскія правіцелі-дэмакраты. Вядома, у розных варыяцыях, аднак з падобнымі вынікамі. Горш за ўсё — такія захады бачыў народ. І рабіў высновы.

Цяпер можа гукнуцца старое. Падчарка снабісцкай Масквы — беларуская дэмакратыя можа "заплаціць" як па свайму рахунку, так і па расійскаму. Такі "разлік" будзе зразумелым і тым больш адчувальным, калі адыграе ролю прапагандысцкі сіндром, які па-майстэрску ўмеюць выклікаць у народзе штатныя агітатары былога партнаменклатурнага істэблішмента. Бо значнай частцы так званага электарату няма справы да таго, хто менавіта апынецца на "сёмых нябёсах" пасля выбараў, калі пытанне стаіць аб элементарным выжыванні. У такіх варунках дэмакратычным палітыкам трэба было б кансалідаваць сілы і зрабіць стаўку на адну фігуру. Але надзеі на падобны зыход невялікія. Пад маналітнай плітой умелай прапаганды і гнётам уцякаючага часу верагоднасць далейшага разыходжання апазіцыйных прэтэндэнтаў па розныя бакі агульнай дарогі да прыпынку "Чэрвень, 23" толькі ўзрастае. Здаецца, "імгненнае фота" напярэдадні абвяшчэння Цэнтрвыбаркамам афіцыйных вынікаў праверкі падпісных лістоў адлюстроўвае менавіта такую карціну.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

*Дзяжурны па выпуску — П. СІМАНАЎ.*

### "Еўраньюс"

#### ІНФЛЯЦЫЯ НЕ ТОЛЬКІ Ў НАС...

*Куба, якая перажывае сур'ёзны эканамічны крызіс, аб'явіла аб рэзкім павышэнні цэн на тавары і паслугі.*

Кошт літра бензіну павялічыўся ў 3 разы, а пачка цыгарэт — у 8 разоў. Падаражаюць таксама электрычнасць, вада і грамадскі транспарт.

#### ПРАМОВА Н.МАНДЭЛЫ

*Прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі Нэльсан Мандэла звярнуўся да свайго народа з прамовай.*

Ён падкрэсліў, што новае кіраўніцтва краіны хоча стварыць такое грамадства, галоўнай каштоўнасцю якога з'яўляецца свабода. Прэзідэнт гарантаваў палітычную свабоду і роўныя правы ўсім грамадзянам ПАР і выказаў думку, што цяпер наспеў час для прыняцця новай канстытуцыі.

### "Суперчэннэл"

#### ПАДЗЯКА ЗА АБАВЯЗКОВАСЦЬ

*Дзяржсакратар ЗША Уорэн Крыстафер пад час сустрэчы з пакістанскім прэзідэнтам Фарукам Лекхары выказаў ад імя Злучаных Штатаў падзяку Пакістану за своечасовае выдзяленне вялікай колькасці сіл для ўдзелу ў аперацыі ААН у Самалі.*

У.Крыстафер зазначыў: абедзве краіны занепакоены праблемамі распаўсюджання зброі масавага паражэння ў свеце і зробяць усё, каб дасягнуць большай стабільнасці.

#### ЗА ВАЙЦЗЭКЕРАМ – ГЕРЦАГ

*Першага ліпеня пасля афіцыйнай адстаўкі цяперашняга прэзідэнта Германіі Вайцзэкера гэтую пасаду зойме Роман Герцаг.*

### "Уорлднэт"

Старшыня вярхоўнага суда Герцаг, які абраны новым прэзідэнтам ФРГ, заявіў, што Германія больш ніколі не будзе агрэсарам.

#### ПАДАРУНАК АЎТААМАТАРАМ

*Італьянскія аматары хуткай язды атрымалі падарунак.*

У Паўночнай Італіі ў горадзе Маранэла створаны новы аўтамабіль F-355. Тэхнічныя характарыстыкі: 8 цыліндраў, 380 конскіх сіл. Кошт аўтанавінкі, як кажуць, памяркоўны — 190.000 марак.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## БІЗНЕС-КЛАС

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### БАНКАЎСКІЯ НАВІНЫ

Яшчэ летам 1992 года Нацыянальны банк Беларусі зарэгістраваў прадстаўніцтва ў Мінску дэпутата-крэдытнага банка Польшчы, аддзяленне якога цяпер рыхтуецца да адкрыцця.

Новы банк будзе займацца абслугоўваннем польска-беларускіх фірм, зарэгістраваных у Беларусі. На сённяшні дзень іхняя колькасць дасягнула 700. Да таго ж, акрамя разлікаў у валюце, банк арганізуе працу і з валютнымі крэдытамі. Дарэчы, у Польшчы ўжо адкрылі свае рахункі беларускія банкі "Белпрамбудбанк", "Белзнешэканомбанк", "Комплексбанк", "Брэсткамбанк", АКБ "Пошук".

### ПАРАЎНАЕМ?

Паводле звестак Дэпартамента статыстыкі, у Літве самыя нізкія пенсіі з трох краін Балтыі. У мінулым месяцы сярэдні памер пенсій быў у Літве 12,73 USD, у Эстоніі — 22,1 USD, у Латвіі — 26,32 USD. З 1 мая пенсіянерам Літвы ў чарговы раз павысілі пенсіі на 5 працэнтаў, аднак з-за ўвядзення падатку на дабаўленую вартасць чакаецца рост цэн на 7-9 працэнтаў. Значыць...

Што ж тычыць сярэдняй зарплаты ў Балтыі, то тут зноў у лідэрах Латвія — 122,9 USD. У Эстоніі — 85,8 USD, у Літве — 88,4 USD.

А зараз невялічкая інфармацыя для роздуму: у сакавіку, паводле даных Дзяржкамстата Беларусі, сярэдняя заработная плата рабочых, служачых і калгаснікаў склала 238.525 "зайчыкаў", і красавіцкае павышэнне зарплат наўрад ці змяніла становішча да лепшага (гл.курс даляра на першай старонцы). Пенсіянерам жа Беларусі "шанцуе": як паведамілі ў Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння, у сакавіку сярэдняя пенсія ў нашай рэспубліцы склала 253,152 рублі.

### КАНКУРЭНЦЫЯ РАСЦЕ

Днямі ў Астраўцы на першым паверсе гасцініцы Смаргонскае аддзяленне Гродзенскага акцыянернага рэгіянальнага камерцыйнага банка "Комплексбанк" адкрыла пункт абмену валюты. Цяпер жыхары пасёлка і раёна будуць мець яшчэ адну магчымасць прадаць ці набыць СКВ. Да нядаўняга часу ў Астраўцы падобныя аперацыі з грашовымі сродкамі праводзіліся ў абласным пункце АКБ "Белаграпрамбанка". У дадзеным выпадку кожнаму з банкаў прыйдзецца пазмагацца за кліента, тым больш што "Комплексбанк" будзе яшчэ афармляць чэкі і чэкавыя кніжкі.

Але толькі гэтым дзейнасць "Комплексбанка" не абмяжоўваецца. Кіраўніцтва вырашыла аказваць грашовыя дапамогі малазабяспечаным сем'ям, ветэранам вайны і працы, а таксама інвалідам. І першую, так бы мовіць, дабрачынную акцыю ажыццявіла. На вышэй пералічаныя мэты "Комплексбанк" унёс 500 тысяч рублёў на рахунак Астравецкага райвыканкама.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### СЕРТЫФІКАТ — ГЭТА СУР'ЁЗНА

10 чэрвеня ў Мінску пройдзе семінар па тэме "Увядзенне абавязковай сертыфікацыі ў Рэспубліцы Беларусь". У праграме семінара — абмеркаванне прававых асноў увядзення абавязковай сертыфікацыі ў Беларусі, парадак яе правядзення і гігіенічная рэгламентацыя прадукцыі. Асобна будуць разглядацца Нацыянальная сістэма Белстандарт сертыфікацыі ў Рэспубліцы Беларусь і ўзаемаадносіны з краінамі СНД пры ажыццяўленні ўзаемных паставак.

* * *

Дэлегацыя Саюза прадпрымальнікаў на чале з прэзідэнтам Саюза У.Карагіным прыняла ўдзел у Міжнароднай выставе-салоне "Мота-94", што працуе з 26 па 29 мая ў Беластоку. Беларускія прадпрымальнікі запланавалі сустрэчу з кіраўніцтвам Рамеснага Саюза Польшчы. Тэмай для абмеркавання стануць пытанні цеснага дзелавога супрацоўніцтва прадпрымальнікаў дзвюх краін.

**Марына БЯЛЕЦКАЯ.**

---

ВЫБАР

# Без жанчын няма дэмакратыі!

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

*Грамадска-палітычны рух "Жанчыны Беларусі" фактычна стварыўся 1 красавіка гэтага года. На ўстаноўчай канферэнцыі прысутнічалі 76 дэлегатаў і больш за 40 запрошаных. Сёння ў руху больш як 3,5 тысячы чалавек. Старшыня каардынацыйнага Савета руху — Тамара Іосіфаўна ЧОБАТАВА. Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь. Дзесяць гадоў на прафсаюзнай рабоце.*

**— Тамара Іосіфаўна, з якімі мэтамі стварыўся рух?**

— Калі сфармуляваць іх коратка, дык гэта, па-першае, аб'яднаць найбольш актыўных жанчын рэспублікі для абароны сваіх палітычных, эканамічных, сацыяльных і культурных правоў і інтарэсаў, па-другое, садзейнічаць дзяржаве у вырашэнні праблем сям'і, мацярынства і дзяцінства і, па-трэцяе, прадстаўляць інтарэсы жанчын у органах дзяржаўнай улады і кіравання. Увогуле, ідэя стварэння такога руху даўно ўжо насілася ў паветры, і звязана гэта, безумоўна, з палітычнымі падзеямі ў краіне.

**— Калі я правільна зразумела, у вашага руху няма палітычнай афарбоўкі. Інакш кажучы, вы не прымыкаеце да правых, левых ці цэнтрыстаў?**

— Мы хацелі б аб'яднаць усе жаночыя саюзы, аб'яднанні, рухі і г.д. Згадзіцеся, праблемы сям'і, дзяцінства — агульначалавечыя і блізкія ўсім жаночым арганізацыям. Мы не ставілі перад сабой мэту змяняць нечыя перакананні, але ёсць агульныя праблемы ў нашым жыцці, якія хвалююць усіх. Таму і запрашаем да супрацоўніцтва тых, каму дарагія інтарэсы Бацькаўшчыны, здароўе нацыі, яе маральнае і духоўнае адраджэнне, яе будучыня. Мы гатовыя да пошуку разумных рашэнняў і кампрамісаў у імя стабільнасці і дабрабыту рэспублікі.

**— Напэўна, рух багаты на выдатных жанчын?**

— Трэба адразу сказаць, што мы яшчэ знаходзімся ў стадыі фарміравання, але, сапраўды, ёсць у нас інтэлектуальная эліта, у тым ліку і навуковая. Сярод іх палітолагі, сацыёлагі, прадпрымальнікі. Ёсць жанчыны, якія прафесійна займаюцца палітыкай. У дадзены момант мы фарміруем банк даных на ўсіх выдатных жанчын.

**— Дарэчы, ці прадстаўлены рух у Вярхоўным Савеце?**

— Так. У нашай устаноўчай канферэнцыі, якая адбылася 12 мая, брала ўдзел народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Пянькові Зінаіда Васільеўна.

**— Як вы лічыце, ваш рух будзе ўдзельнічаць у выбарах?**

— Безумоўна. Будзем балаціравацца ў Вярхоўны Савет, органы мясцовай улады. Занадта мала ў гэтых структурах актыўных жанчын. Наіўна думаць, што мужчыны будуць прадстаўляць нашыя інтарэсы там, наверсе. Калі мы самі пра сябе не паклапоцімся — ніхто гэтага не зробіць. Праблема заключаецца ў тым, каб знайсці такіх жанчын, якія б дастойна прадстаўлялі інтарэсы руху ва ўладных структурах.

**— Тамара Іосіфаўна, якія кантакты ў руху з жаночымі арганізацыямі іншых краін?**

— Зразумела, замыкацца нам не варта, тым больш, што ў свеце ўжо набыты вопыт. Зараз выходзім на міжнародныя жаночыя арганізацыі. Добрыя кантакты з такой вядомай арганізацыяй, як "Жанчыны Расіі".

**— У іх ёсць чаму павучыцца. Бліскучая перамога на выбарах у Думу, салідная вага ў грамадстве.**

— Так, гэта для нас вельмі прывабны прыклад. Яны, у прынцыпе, дабіліся таго, да чаго і мы імкнёмся.

**— Тамара Іосіфаўна, сёння шмат ствараецца новых партый, саюзаў, блокаў, аб'яднанняў. І гэта зразумела, калі ўлічваць цяперашнюю абстаноўку, якую палітыкі называюць нараджэннем шматпартыйнасці. Пытанне такое: чаму, на ваш погляд, жанчыны так актыўна пайшлі ў палітыку?**

— У першую чаргу таму, што змяненні ў эканоміцы, звязаныя з гэтым бытавыя, жыццёвыя цяжкасці леглі на плечы менавіта жанчын. У самым цяжкім становішчы апынуліся жанчыны як у сям'і, так і на вытворчасці. Перад усім сёння жанчыны, асабліва з дзецьмі, першымі скарачаюцца на працы, таму 80 працэнтаў работнікаў з тых, што трапляюць пад скарачэнне, — жанчыны. Часцяком прадпрыемствы адмаўляюць жанчынам у працаўладкаванні, назіраецца дыскрымінацыя ў аплаце. А калі жанчыны маўчаць, відаць, так і будзе працягвацца. Законы прымуць без удзелу жанчын, а адзіную камісію ў Вярхоўным Савеце, якая займаецца пытаннямі мацярынства і дзяцінства, будзе ўзначальваць мужчына.

**— У чэрвені ў краіне адбудуцца прэзідэнцкія выбары. Чаму ніводная жанчына, не фігуруе ў якасці прэтэндэнта?**

— Мала палітычна актыўных жанчын. І самае галоўнае — няма яркай кандыдатуры. Думаю, на наступных выбарах сітуацыя зменіцца.

**— Тамара Іосіфаўна, па статыстыцы большасць насельніцтва — жанчыны, і большасць выбаршчыкаў — таксама. Якім, на вашу думку, павінен быць прэзідэнт з пункту гледжання жаночай псіхалогіі?**

— Думаю, што прэзідэнт, у першую чаргу, павінен рэальна бачыць жыццё і імкнуцца забяспечыць нармальнае існаванне народа. Сёння ўжо 60 працэнтаў насельніцтва — за мяжой беднасці. Грамадства страшна палярызавана. Сярэдніх слаёў няма. Для прэзідэнта шмат работы, і найперш ад яго будуць чакаць захадаў па паляпшэнню дабрабыту людзей, павышэнню жыццёвага ўзроўню.

**— Дзякую за інтэрв'ю.**

---

Пяцьсот гадоў таму хлопчык-пастушок убачыў ікону Божай Маці. Хутка высветлілася, што яна – цудатворная. На месцы яе з'яўішча хутка ўзнік манастыр. Святкаванне ўгодкаў з'яўішча іконы Жыровіцкай Божай Маці адбылося ў аднайменным манастыры, які размешчаны ў Слонімскім раёне. У набажэнстве і Хрэсным ходзе прымалі ўдзел не толькі мясцовыя вернікі, а і шматлікія паломнікі з розных куткоў Беларусі і нават з блізкага замежжа.

**Мікола БАГАДЗЯЖ.**

---

# Каб не спазніцца

Дзяржаўныя музеі — набытак грамадства, які сведчыць, наколькі гарманічна яно развіваецца. Непарыўная сувязь паміж прыродай і чалавекам нараджае гісторыю і культуру. На першым месцы ў краіне павінен стаяць музей экалогіі. Гэта вельмі важна, таму што менталітэт народа фарміруецца пад уплывам прыроды. І, ведаючы навакольны свет нацыі, больш яскрава можна зразумець гістарычныя падзеі, што адбываліся на гэтай тэрыторыі. "Трэцім кітом" з'яўляецца музей культуры, таго, што стварае чалавек, які адлюстроўвае глыбіню душы народа, яго мастацтва.

Два гады назад быў створаны музей прыроды і экалогіі Рэспублікі Беларусь. Гэтага чакалі вельмі доўга. Цяпер у фондах і экспазіцыі знаходзіцца звыш дзесяці тысяч экспанатаў. Але існуе многа праблем. Дакладна яшчэ не вырашана з памяшканнем. Верагодна, што музей гісторыі і культуры пяройдзе ў будынак на плошчы Свабоды. І тады будзе магчымасць размясціць экспазіцыю музея экалогіі на больш вялікай плошчы. Пра гэта мне паведаміў дырэктар Мікалай Васільевіч Сінькевіч. Наша гутарка часткова была прысвечана праблеме захавання прыроды — самай балючай праблеме нашага часу, сцвярджаюць ААН і іншыя экалагічныя арганізацыі. Асноўная задачай з'яўляецца вывучэнне прычын сусветных катастроф, разуменне іх павінна прынесці навакольнаму свету чысціню, зрабіць яго прыгодным для жыцця. На маё пытанне "Ці патрэбны людзям музей экалогіі?" М.В.Сінькевіч адказаў: "Безумоўна, няма аніякага сумнення. Няведанне дае магчымасць розным "спекулянтам" выкарыстоўваць прыроду ў сваіх мэтах. Яны не разумеюць яе, не ведаюць. Таму не імкнуцца берагчы. Напрыклад, дрэва — яно жывое, яно мае душу. І да кожнай істоты трэба падыходзіць з дабрынёй. Матылёк, які быў і мільёны год таму, такі і зараз. А чалавек толькі за апошняе стагоддзе дасягнуў вельмі шмат у сваім развіцці. Самае галоўнае зараз — прапаганда экалогіі ў грамадстве".

І сапраўды, цяжкасці, з якімі сутыкнуўся свет, не ўзнікаюць самі па сабе. Здараецца гэта з прычыны канфлікту чалавека з прыродай. Ён паставіў сябе вышэй за ўсё існуючае на зямлі, не задумваецца над тым, што робіць. Вынік — сусветныя экалагічныя трагедыі, што прыносяць столькі гора не толькі людзям, але і прыродзе, якая з кожным годам страчвае усё больш і больш.

Беларусь мае багаты скарб. Ён ва ўсім — у лясах, азёрах, рэках, у нетрах зямлі. Усё гэта трэба вывучаць, глыбей пазнаваць, каб выкарыстоўваць для людзей, і захаваць у найлепшым стане.

Навукова-даследчую працу для музея экалогіі і прыроды робяць не толькі яго супрацоўнікі, але і навукоўцы з Акадэміі навук Беларусі, Бярэзінскага запаведніка і іншых (навуковых і навучальных) устаноў.

У супрацоўнікаў музея існуе яшчэ адна вельмі цікавая задума, якою падзяліўся са мной М.В.Сінькевіч.

На Беларусі існавала шмат маёнткаў, аднак мала які захаваўся да нашых дзён. Але з часова існуючых можна назваць маёнтак пана Якуба Наркевіча на Міншчыне. Якуб Наркевіч-Ёдка (1848-1905), сапраўдны беларус, вучоны прыродазнаўца і ўрач, прафесар. Даследчык яго жыцця кандыдат эканамічных навук У.Кісялёў сцвярджае, што гэта быў таленавіты чалавек, чые адкрыцці ў галіне навукі і медыцыны выкарыстоўвае ўвесь свет. Але, на жаль, слава "не закранула" яго сваім крылом. Адкрыццё музея над Нёманам павінна адрадзіць памяць пра гэтага шаноўнага вучонага.

**Галіна САРАЙКІНА.**

---

У Салігорску вельмі папулярны сярод юных жыхароў Цэнтр тэхнічнай творчасці вучнёўскай моладзі. Тут дзеці займаюцца ў 63 гуртках, якімі кіруюць вопытныя спецыялісты. Многім юнакам і дзяўчатам гэтая вучоба дапамагае выбраць будучую прафесію.

Вельмі цікава праходзяць заняткі ў гуртку радыётэлеграфістаў. Тут пад кіраўніцтвам Паўла Пятровіча Вярынскага школьнікі вывучаюць асновы радыёсправы і радыётэлеграфнай сувязі. У гуртко ўцаў наладжаны кантакты з радыёаматарамі больш чым з 150 краін свету.

НА ЗДЫМКУ: васьмікласнік сярэдняй школы № 6 г.Салігорска Алёша ВАСІЛЬЕЎ выходзіць на радыёсувязь.

Фота **Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ,** Белінфарм.

---

ЧАРНОБЫЛЬ — НАШ БОЛЬ

# Чужога гора не бывае

□ Яўгенія ВІЦЬБА

Гэта даўно правераная жыццём ісціна: у часы вайны, у часы разбуральных стыхій найбольш гінуць маладыя. Яны ідуць закрываць прамыя і ўскосныя амбразуры найчасцей таму, што па прычыне сваёй маладосці і нявопытнасці пазбаўлены адчування і разумення небяспекі, што тоіць смерць, і таму, што іх душам уласцівы "прекрасные порывы" самаахвярнасці і подзвігу, і таму, што не ўмеюць хітра абысці загад, бо загад разумеюць як неабходнасць, якую трэба выконваць сумленна і мужна.

Так было ў апошнюю Айчынную вайну, так было ў часы лакальных войнаў, калі сотні і тысячы маладых людзей не толькі па загаду, але і дабравольна выпраўляліся ў небяспечны для іх маладых жыццяў шлях. Так было і ў час мірнай трагедыі па Беларусі, калі на Чарнобыльскай АЭС вырваўся з-пад кантролю радыяцыйны джын.

У ліку першых на яго ўтаймаванне прыбылі супрацоўнікі міліцыі і пажарнай аховы Віцебскай вобласці. Толькі да 1987 года на ЧАЭС пабывала 1300 чалавек — у асноўным моладзь. Міліцыянерам прыходзілася, бадай, найцяжэй. Не толькі падтрымлівалі парадак пры эвакуацыі насельніцтва ці ахоўвалі маёмасць пакінутых і незачыненых часам дамоў, але і займаліся нарыхтоўкай кармоў для жывёлы, што раўла галодная. Яе кармілі таксама, паколькі было невядома, калі вернуцца гаспадары, як вырашыцца лёс іх жыўнасці.

Першым у трыццацікіламетровай зоне з'явіўся атрад на чале з палкоўнікам А.М.Тамашовым. Але ў тым трагічным красавіку-маі, як і ў іншых ліквідатараў, ніхто перад адпраўкай не зрабіў папярэднюю праверку здароўя. Адпраўлялі як па трывозе. Абяцалі, што на якіх-небудзь дзесяць дзён. А потым атрад заставаўся яшчэ два разы на столькі.

Самаадчуванне і настрой пагаршаліся з кожным днём. Разумелі, што сталі заложнікамі, але мужна выконвалі абавязак.

— Хто б мог падумаць, чым усё скончыцца, — успамінае старшыня абласной асацыяцыі "Шчыт Чарнобылю" маёр Сяргей Леанідавіч Арцюхоўскі. — Усё лета не было дажджоў, паколькі стварыўся антыцыклон, каб не выпалі радыяцыйныя ападкі. Спёка невыносная, пыл. Пад распіратарамі раздражнялася скура, пранікалі мікробы. Але гэта былі цярпімыя цяжкасці. Пра небяспеку апраменьвання думалася мала, ды і тое толькі па чутках. Як і ўсе, мы нічога не ведалі, бо дзяржава, сістэма ўтойвалі праўду. Ад таго, што і гаварыць, многія бравіравалі сваёй бясстрашнасцю: загаралі на пляжы, некаторыя фатаграфаваліся распранутымі ля самага рэактара. Адзін наш супрацоўнік нават вершы публікаваў аб праклятым рэактары "который мы укротим". Наіўная, святая бравада.

Мы, зразумела, утаймоўвалі. І толькі пасля даведаліся, што за подпісам Шульжэнкі, начальніка 3-га аддзялення Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя СССР, было пісьмо "Аб узмацненні рэжыму сакрэтнасці пры выкананні работ па ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС" ад 27 чэрвеня 1986 года, дзе ў пункце 2 было сказана: "Засакрэціць звесткі аб выніках лячэння", а ў пункце 9 — "Засакрэціць звесткі аб ступені радыеактыўнага паражэння ліквідатараў па ЧАЭС".

Але, як ні засакрэчвалі, трагічныя зыходы не прымусілі доўга чакаць. Пратэсты абурэння прымусілі дзейнічаць. Трэба было ратаваць саміх ліквідатараў, дапамагаць ім і іх сем'ям. У 1990 годзе адной з першых у рэспубліцы ўзнікла Віцебская абласная асацыяцыя "Шчыт Чарнобылю", як галіна арганізацыі "Саюз Чарнобыль". Работнікі "новаахоўных органаў вобласці не сталі выдзяляцца ў асобную арганізацыю, вядуць вялікую работу па аказанню дапамогі сваім членам і іх сем'ям па самых розных праблемах, зразумела, ліквідатарскіх. Бо не толькі хварэюць, але і заўчасна адыходзяць таварышы па службе.

...Неадчувальна ўжо ў 1988 годзе кранулася чорнае чарнобыльскае крыло сяржанта Сяргея Малахава, які пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Хлопец толькі што прыйшоў з арміі, ажаніўся, паступіў на міліцэйскую службу. Але не паспела запомніць маладога бацьку дачка, якая нарадзілася праз год. Засталася з ёй без кватэры і работы жонка. Ды, дзякуй Богу, не пакінулі ў бядзе сябры мужа: і на працу ўладкавалі, і з кватэрай вырашылі пытанне.

"Згарэў" заўчасна і афіцэр Полацкага ГАУС, азербайджанец па нацыянальнасці, Машаідаў Рызван Гасан-аглы, пакінуўшы жонку-беларуску і трох дачок — Саіду, Лейлу і Эльміру на сумленне і падтрымку таварышаў па службе.

Дзевяцігадовы сын з жонкай засталіся ў Віктара Пруднікава. Ён, тады яшчэ ў званні старшага лейтэнанта, таксама трапіў пад чарнобыльскае крыло. І вось нечакана для ўсіх забрала смерць...

— "Шчыт Чарнобылю" — гэта не толькі дапамога ліквідатарам з міліцыі ў набыцці ўзаконеных правоў і льгот, гэта — заслона ад жыццёвых цяжкасцей і бедаў для ўдоў з дзецьмі, — гаворыць Сяргей Арцюхоў. — Нашы дзеці, асабліва дзеці 12 супрацоўнікаў, што памерлі ад радыяцыі, не павінны быць аддадзены вуліцы. Таму не толькі аб аздараўленні іх за мяжой клапоціцца наша асацыяцыя, але каб і па-сапраўднаму паставіць іх на ногі. Думаем, што зможам дапамагчы з вучобай і працаўладкаваннем дзяўчат, а хлопчыкаў накіруем у школы міліцыі, каб сталі заменай сваім бацькам.

Такія намеры цалкам падзяляе кіраўніцтва ўнутраных спраў вобласці. Выказаўся пра гэта і генерал-маёр А.П.Кляшчонак на нядаўняй сустрэчы ў аблвыканкаме з удовамі міліцыянераў-ліквідатараў, якім была ўручана чарговая грашовая дапамога.

— Як можам, падстаўляем пляччо падтрымкі, — працягвае Сяргей Леанідавіч. — Дзяржава забрала сваіх праваахоўнікаў зусім маладымі. Яны, хоць і дачасна, аддалі ёй усё спаўна. Недадалі належнага толькі сваім блізкім. Таму, паколькі дзяржава не ў стане адказваць за іх лёс, мы ставім свой шчыт, сваю заслону жыццёваму Чарнобылю на шляху сем'яў. І тых, хто з намі, але таксама пабываў у тым пекле. Вось толькі б не меншылася нераўнадушных да чужой бяды людзей. Каб было больш такіх спадзвіжнікаў, як Генадзь Грушавы, Уладзімір Савічаў, Святлан Сазанкоў, Павел Бойка, што першымі сталі на заслону ад чарнобыльскіх наступаў.

---

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Сахараўскі каледж па-за палітыкай, аднак Алена Бонэр сімпатызуе Станіславу Шушкевічу

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

Наша імклівая рэчаіснасць багатая на розныя падзеі. Але і ў іх шэрагу сустрэча ў Міжнародным Сахараўскім каледжы па радыеэкалогіі з нагоды чарговага пасяджэння папячыцельскага камітэта была, бадай, з'явай неардынарнай. Акрамя вядомых усяму свету навукоўцаў, у ёй удзельнічала Алена Георгіеўна Бонэр, прэзідэнт фонду А.Д.Сахарава. Пад час свайго выступлення яна, дарэчы, заўважыла: "Вы назіраеце цуд", маючы на ўвазе сам факт існавання каледжа ва ўмовах агульнага заняпаду постсавецкага развіцця.

Трэба сказаць колькі слоў пра каледж — адзіную вышэйшую ўстанову на Беларусі, дзе ўкараняецца модульная сістэма адукацыі, якая аўдыруецца ў заходніх універсітэтах. Ён быў утвораны 20 студзеня 1992 года спецыяльнай пастановай урада Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з рэкамендацыямі Міжнароднага Сахараўскага кангрэса і пры падтрымцы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Вядома ж, станаўленне ішло няпроста. Гэты працэс не завяршыўся і цяпер. Спачатку ўлады абяцалі размясціць установу ў цэнтры Мінска, аднак абяцанні свае не стрымалі. Пад каледж прызначылі "асабняк" па вуліцы Даўгабродскай, 23. Ён не занадта шыкоўны, да таго ж, побач робяцца прыбудовы, якія не будуць належаць каледжу і парушаць адзіную структуру навучальнага комплексу. На праблему і звярнула ўвагу журналістаў Алена Георгіеўна, папрасіўшы дапамагчы друкаваным словам.

Аднак, нягледзячы на цяжкасці росту, каледж жыве, і яго адміністрацыя спадзяецца на лепшае. Цяпер тут рыхтуюць спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі па прадухіленню і ліквідацыі наступстваў радыяцыйных аварый (спецыялізацыі "Ядзерная фізіка і радыяхімія", "Радыебіялогія і радыяцыйная медыцына", "Радыеэкалогія і аграбіялогія"). Акрамя спецыяльных дысцыплін, студэнты вывучаюць гуманітарныя навукі, авалодваюць камп'ютэрнай тэхнікай, электронікай. Інтэнсіўны курс англійскай і іншых еўрапейскіх моў дапамагае разумець лектараў з-за мяжы, глыбей асвойваць спецыяльнасць. Усё гэта адпавядае асноўным задачам каледжа, у якія ўваходзіць і даследаванне радыяцыйных эфектаў у навакольным асяроддзі, і міжнароднае супрацоўніцтва з аналагічнымі замежнымі цэнтрамі.

Дарэчы, тэрмін навучання тут 4 і 6 год з прысваеннем ступені бакалаўра або магістра адпаведна. А для лепшых студэнтаў навучальны працэс прадугледжвае працу над дыпломамі пад кіраўніцтвам прафесараў каледжа і замежных універсітэтаў, стажыроўкі ў Францыі, Вялікабрытаніі, а таксама ў іншых краінах па праграмах кафедры ЮНЕСКО "Навукі аб навакольным асяроддзі і менеджмент". З 1995 года пры Сахараўскім каледжы плануецца адкрыццё аспірантуры.

Каб стала зразумелым высокае міжнароднае гучанне імя каледжа, дастаткова пазнаёміцца са складам папячыцельскага камітэта. У яго ўвайшлі прафесар Рычард Вілсан з Гарвардскага універсітэта (ЗША), доктар Эднэн Шыхэб-Элдын — дырэктар дэпартамента ЮНЕСКО, прафесар Роберт Сміт — віцэ-канцлер Кінгстанскага універсітэта (Вялікабрытанія), доктар Дэвід Рэндал з Кінгстанскага універсітэта (Вялікабрытанія), прафесар Алан Кормак, Нобелеўскі лаўрэат, Тафтскі універсітэт (ЗША) і іншыя сусветна вядомыя вучоныя. У камітэцкім складзе і Станіслаў Шушкевіч.

У асноўным размова на сустрэчы вялася пра праблемы каледжа, якіх нямала. І галоўныя тычацца фінансавага забеспячэння. Аднак у гэтай навучальнай установы, як падкрэсліў рэктар Аляксандр Міхайлавіч Люцко, каласальныя перспектывы. Пад час перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі не абышлося і без палітыкі. У зале гучалі пытанні наконт прыхільнасцей выступаўшых да таго ці іншага прэтэндэнта. Рэктар зазначыў, што Сахараўскі каледж па-за палітыкай — такое рашэнне свядома прынята кіраўніцтвам, якое палічыла за лепшае — займацца канкрэтнымі справамі і не ўвязвацца ў палітычныя гульні.

Алене Георгіеўне Бонэр таксама прыйшлося адказаць на "палітычнае" пытанне. Яна мяркуе, што, знаходзячыся на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Станіслаў Шушкевіч мог зрабіць большае. Аднак магчымасці яго пастулова памяншаліся, у пэўным сэнсе ён (як, на яе думку, і Ельцын) прайграваў з-за недастатковай прынцыповасці, ідучы на бясконцыя кампрамісы. Хаця асабіста Алена Бонэр і цяпер сімпатызуе Станіславу Шушкевічу.

---

КУР'ЕР

### Дзіўны падарунак фрау Хабшыд

*Ужо стала добрай завядзёнкай: амаль кожны месяц Маладзечна наведваюць госці германскага Чырвонага Крыжа. І вось зноў нядаўна яны прыехалі ў горад. Прывезлі лекі, харчаванне хворым дзецям і — дзіўнае пажаданне фрау Хабшыд.*

Гэтая 80-гадовая нямецкая жанчына за маркі, якія збірала ўсё жыццё, вырашыла здзейсніць сваю запаветную мару— у выглядзе гуманітарнай дапамогі купіць і падарыць беларускай сям'і... статак авечак. Яна звярнулася ў германскі Чырвоны Крыж, каб там паклапаціліся і знайшлі на Маладзечаншчыне вясковую жанчыну, якая б узялася сабе на карысць даглядаць падараваную фрау гэтую свойскую жывёлу.

Знайсці такую гаспадарлівую вяскоўку Хабшыд даручыла кіраўніку дэлегацыі пану Удэ Гідэ, калі той ехаў у Маладзечна. З дапамогай тутэйшых маладзечанскіх сяброў ён выканаў наказ паважанай фрау, знайшоў у адной з вёсак раёна стaранную калгасніцу, якая ведае толк у гадоўлі авечак.

У пачатку лета, калі дэлегацыя германскага Чырвонага Крыжа зноў наведае Маладзечна, грошы фрау Хабшыд будуць перададзены гэтай жанчыне. Немцы дапамогуць ёй купіць авечак, сфатаграфуюць жанчыну з яе гадаванцамі і перададуць здымак фрау Хабшыд.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### Псіхолагі... шырокага профілю

*Новая спецыяльнасць — псіхолаг шырокага профілю — з'явіцца ў будучым навучальным годзе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы.*

Неабходнасць такога кроку тлумачыцца ростам грамадскай цікавасці да гэтай навукі, недахопам школьных псіхолагаў і псіхолагаў на прамысловых прадпрыемствах. Узрасла таксама папулярнасць псіхалагічных кансультацый. На першы курс плануецца прыняць 25 студэнтаў, якія будуць праходзіць падрыхтоўку па дзвюх спецыяльнасцях: узроставая і дыферэнцыяльная псіхалогія (для працы ў вучэбных установах, дзіцячых садках, органах сацыяльнага забеспячэння) і псіхалогія менеджмента.

У хуткім часе ў школах і ПТВ Беларусі ўводзіцца курс псіхалогіі, які змогуць прафесійна выкладаць псіхолагі з Гродзенскага універсітэта

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### Коратка

*У выдавецтве "Згода" рыхтуецца насценны каляндар на 1995 год.*

У ім прадугледжаны новыя святы: чырвоным колерам адзначаны дні нараджэння Мячэслава Грыба і Вячаслава Кебіча.

**Жанна МАЁРАВА.**

---

ПАМЯЦЬ

# Пра былое

На 3-ці Беларускі фронт ваенны лётчык капітан Леанід Ігнатавіч Бяда прыбыў напярэдадні аперацыі "Баграціён", якая ставіла за мэту поўнае вызваленне шматпакутнай беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

Вось адзін з эпізодаў таго часу.

У самым пачатку аперацыі "Баграціён" капітан Бяда вёў шасцёрку "ільюшыных", якіх нашы воіны называлі "лятаючымі танкамі", а гітлераўцы — "чорнай смерцю".

Яшчэ здалёку яны заўважылі варожы эшалон з тэхнікай, які ішоў у бок фронту.

— Біце па вагонах! — аддаў загад Бяда. Скінутыя бомбы трапілі прама ў паравоз, і ён, пакарабачаны, спыніўся.

У гэтыя секунды лётчыкі эскадрыллі абрушылі бомбы на вагоны і платформы. Адзін з вагонаў узарваўся, полымя ўзнялося на сотню метраў.

Пасля чацвёртага заходу ад эшалона нічога не засталося. Было знішчана звыш 20 вагонаў і платформ з боепрыпасамі і тэхнікай.

Да канца Беларускай аперацыі да ўзнагарод Леаніда Ігнатавіча дабавіліся два ордэны Чырвонага Сцяга і ордэн Аляксандра Неўскага. 26 кастрычніка 1944 года яму было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

**В.ЧАРНЯЎСКІ.**

